Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.



# Беларускі Звон

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 11 жніўня 1932 г. № 22 (47)

## У свае гімназіі!

Беларуская сярэдняя школа, беларуская гімназія — гэта адзіны спосаб даць беларускаму сялянскаму дзіцяці сярэднюю эдукацыю і расчыніць яму дзьверы унівэрсытэту, не адрываючы яго пры гэтым ад роднае хаты і ад беларускага народу, што звычайна робіць чужая школа. Больш таго: такое дзіця, скончыўшы вышэйшую школу і выйшаўшы ці то на дохтара, ці на адваката, ці на інжэнэра і т. п., будзе мець магчымасьць *бараніць вёску і свой народ* ды *служыць гэтаму народу здабытай ведай*.

Вось чаму тая частка беларускага грамадзянства, якая імкнецца запраўды да стварэньня нацыянальна сьведамае беларускае інтэлігенцыі, у працягу доўгіх гадоў з напружаньнем усіх сваіх сіл утрымлівала і бараніла беларускія гімназіі. Вось чаму такую трывогу сярод нас выклікала тое няпэўнае і няяснае палажэньне, у якім апынуліся дзьве апошнія самастойныя беларускія гімназіі ў Заходняй Беларусі ў сувязі з ведамым праектам польскіх школьных уладаў: *пераняць гэтыя гімназіі ў рукі дзяржавы.*

Як ведама, беларускае грамадзянства згодна выказала свой пагляд, што гімназіі мусяць і надалей астацца *самастойнымі*. Бацькоўскі Камітэт Навагрудзкае гімназіі прасіў школьныя ўлады, каб ягоная гімназія была *самастойнай дзяржаўнай*; Бацькоўскі Камітэт Віленскае гімназіі — каб тая аставалася надалей *самастойнай*, як *прыватная*, ды каб дзяржава давала ей дапамогу на ўтрыманьне.—Наадварот, школьная ўлада ў асобе п. Куратара віленскага вучэбнага вокругу імкнецца да ўтварэньня *беларускіх філіяў* пры польскіх дзяржаўных гімназіях, *цалком утрымліваных і кіраваных дзяржавай.* — Але дагэтуль з боку уладаў ня высоўваўся праект поўнае ліквідацыі беларускіх сярэдніх школ: нязгодлівасьць паміж нашым грамадзянствам і ўладамі ў гэты мамэнт датычыць *формы існаваньня* беларускіх гімназіяў.

Ня гледзячы на гэта, пэўныя нацыяналістычна настроеныя элемэнты ў польскім грамадзянстве, маючыя сутычнасьць з беларускай вёскай, распачалі акцыю, выразна скіраваную *проці беларускага сярэдняга школьніцтва наагул.* Як нас паведамляюць з Навагрудчыны, тамака гэтыя элемэнты пашыраюць сярод беларускіх сялян, дзеці каторых вучацца ў беларускіх гімназіях, *сьвядома фальшывую вестку*, што нібы-то беларускія гімназіі з гэтае восені *перастануць існаваць.* Гэтыя элемэнты намаўляюць бацькоў, каб забіралі сваіх дзяцей з родных ім беларускіх гімназіяў і аддавалі ў польскія, бо інакш яны быццам могуць астацца па-за сьценамі сярэдняе школы. Асаблівая агітацыя вядзецца сярод тых, якія дагэтуль дзяцей ня вучылі і мэняцца аддаць іх у беларускія гімназіі.

Мэта гэтае *правакацыйнае акцыі* зусім ясная. Нашы ворагі, выкарыстываючы разьбежнасьць у паглядах на пытаньне аб беларускім сярэднім школьніцтве, якая ўзьнялася паміж беларускім грамадзянствам і польскімі школьнымі ўладамі, стараюцца „абяскровіць“ нашы гімназіі, разагнаць іх вучняў — з тым, каб у іх ня было выстарчаючае лічбы вучняў, і тады школьныя ўлады мелі-бы падставу паставіць ужо пытаньне *аб поўнай ліквідацыі* іх. Так спрытна падкладаецца „міна“ пад беларускае школьніцтва наагул—гэтую жывую крыніцу, якая з году ў год узбагачывае кадры беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі.

Грамадзяне і бацькі! Не паддавайцеся гэтай нягоднай правакацыі! Памятайце, што — *чым больш вучняў будзе сёлета ў нашых гімназіях, тым мацнейшай будзе падстава іх існаваньня,* тым больш будзе пэўнасьці, што іх *ніхто ня здолее зьліквідаваць!* Ня верце тым, што стараюцца вас абаламуціць брахлівымі, на нічым не абапертымі гутаркамі аб нібы-то пастаноўленай ужо сёлета ліквідацыі беларускіх гімназіяў наагул. Зразумейце, што ў гэты мамэнт *ідзе спорка аб тое, ці гімназіі маюць астацца надалей у руках грамадзянства, ці перайсьці ў рукі дзяржавы.*

*Пасылайце ж бяз ніякага страху ці сумліву просьбы аб прыйме вашых дзяцей у беларускія гімназіі ў Вільні і Наваградку.* Напружайце вашыя сілы, каб *не сарваць з навукі тых дзяцей, якія ўжо вучацца ў гэтых гімназіях.* Наказывайце вашым суседзям і знаёмым, каб рабілі тое-ж.

Беларускія гімназіі ў тэй ці іншай форме *мусяць існаваць.* І яны *будуць існаваць,* калі кожын, хто можа, споўніць свой грамадзкі абавязак і пашле дзіця не ў чужую, а ў сваю *родную беларускую гімназію.*

## Польска-савецкі трактат.

### Водгукі польска-савецкага трактату ў прэсе польскай і замежнай.

Вялізарную сэнсацыю чамусьці выклікала ўва ўсім сьвеце некалькі гадоў ужо рыхтаванае дый усьцяж адкладанае — пад націскам Францыі і Румыніі — падпісаньне польска-савецкага трактату аб узаемным ненападаньні, адбыўшаеся ў Маскве 25 ліпня с. г.

Польская прэса наагул вельмі прыхільна, навет з вялікай радасьцяй прыняла вестку аб падпісаньні трактату. Справа ў тым, што польскае грамадзянства ў апошні час адчувае асаблівую трывогу з прычыны завастрэньня проці-польскага руху ў Нямеччыне, а таксама і з прычыны стварэньня англійскай і француской дыплёматыяй нейкага новага—з учасьцем Нямеччыны—„паразуменьня даверу“, да якога польскае грамадзянства якраз ня мае ніякага даверу, падазраваючы, што яно створана дзеля „мірнай“ гутаркі аб... пераглядзе вэрсальскага трактату, а бліжэйшым чынам польска-нямецкай граніцы...

Гэтыя два мамэнты і кінулі, як можна думаць, Польшчу ў бок Саветаў, і яна „неспадзявана“ навет для абедзьвюх сваіх саюзьніцаў (Францыі і Румыніі) — самастойна і незалежна ад іх падпісала трактат з Саветамі...

Аб гэтым яона дый вельмі востра піша як француская, таксама і румынская прэса. Румынская прэса разглядае падпісаньне Польшчай трактату з Саветамі раней такога-ж трактату румынска-савецкага навет як „удар па польска-румынскім саюзе“ дый наагул — „па традыцыйнай прыязьні і непахільным дагэтуль даверу паміж абыдвума народамі“...

Наадварот — савецкая прэса вельмі задаволена трактатам, які запраўды дае шмат карысьці Саветам, навет без такога-ж трактату з Румыніяй гарантуючы ўсю заходнюю граніцу СССР. Бо-ж, як ведама, савецкая дыплёматыя ўжо здолела заключыць такія-ж трактаты з Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Літвой, а цяпер і з Польшчай. З Румыніяй Саветам навет і ня трэба такога трактату, бо-ж бяз учасьця, а прынамся згоды Польшчы ваенная інтэрвэнцыя з Захаду проці СССР наагул зьяўляецца немагчымай. Такім чынам — Румынія будзе змушана або пайсьці на трактат з Саветамі, адмовіўшыся ад свайго дамаганьня прызнаньня савецкім урадам Бэсарабіі за Румыніяй, або наагул астацца без трактату з Саветамі, што пагражае ўжо ей вялікай небясьпекай з боку СССР.— Гэтым самым трактат з Польшчай дае Саветам магчымасьць спакойна аддацца вялізарнай, распачатай з „плянэтарным“ размахам працы ў Азіі, дзе яны апынуліся твар у твар з такім магутным суседам — ворагам, як Японія.

Значна цяжэй падлічыць карысьці, якія дае трактат Польшчы. Насамперш трактат нейк „падарваў“ дасюлешнія стасункі поўнага даверу паміж Польшчай і яе саюзьніцамі, што бязумоўна аслабіла міжнародавую пазыцыю Польшчы. А чым-жа трактатураўнаважыў гэтую страту? У польскай і францускай прэсе шмат галасоў, якія падчырківаюць першым чынам няпэўнасьць савецкіх гарантыяў, наагул навет подпісу савецкіх дыплёматаў пад трактатам. Савецкі ўрад падпісаў трактат як быццам больш дзеля таго, каб націснуць на нямецкі ўрад, чым шчыра бараніць Польшчу ад нямецкай небясьпекі... У разе патрэбы зьвязаныя з Нямеччынай Рапальскім-Бэрлінскім трактатам Саветы проста сарвуць трактат... Трудна запраўды заглянуць у будучыну, што тамака рыхтуе тэй ці іншай дзяржаве лёс: але ў сучасны мамэнт трактат як-быццам нейк замацоўвае мір на ўсходзе Эўропы, і ўсё-ж запраўды можа стрымаць на бліжэйшы час прынамся нямецкі наскок на Польшчу.

Што датычыць значэньня трактату Польшчы з Саветамі з пункту гледжаньня меншасьцяў у Польшчы, у частцы беларус-

кае меншасьці, дык тутака мы павінны заявіць адкрыта, што трактат, які прызнае ўва ўступе „рыжскі мір асновай узаемных адносінаў паміж Польшчай і СССР“, ня можа спаткацца з прызнаньнем з боку беларускай незалежніцкай палітычнай думкі. Бо-ж навет у рамках чыста меншасьцёвых у Польшчы трактат з бальшавікамі — пры іх сучаснай палітыцы адносна да беларусаў і ўкраінцаў — можа аказаць толькі найгоршы ўплыў на меншасьцёвую палітыку польскага ўраду, якой і без таго нельга закінуць залішняй прыхільнасьці да выкананьня слушных і абаснаваных на існуючых законах і міжнародавых трактатах правоў і дамаганьняў яе меншасьцяў, у частцы — беларускага народу ў Польшчы.

Праўда, Рыжскі трактат шмат кажа аб гэтых абавязках абедзьвюх старонаў. Але на дзеле справа гэтая стаіць так, што савецкі ўрад, як мы высьветлялі надовячы, ня робіць ніякіх сьцясьненяў для польскай меншасьці ў СССР, а навет у БССР штучна стварае палякоў там, дзе іх зусім няма, апалячываючы каранное беларускае насяленьне („польскі“ вокруг у койданаўшчыне...); а адначасна ў польскай Беларусі беларускае насяленьне ня мае беларускіх школаў, ня мае беларускай мовы ў царкоўным жыцьці, хаця аб гэтым здаецца, так выразна кажа Рыжскі трактат, які мае быць „асновай“ новага трактату... І ў меншасьцёвым пытаньні Рыжскі трактат аказаўся пустым гукам.. Такімі-ж пустымі будуць для беларусаў і гучныя заявы новага Маскоўскага трактату.

# Нямеччына пасьля выбарау.

## Вынікі выбараў.

31 ліпня адбыліся агульныя выбары ў цэнтральны парлямант—Рэйхстаг—Нямецкай Рэспублікі. Выбары адбываліся, як заўсёды ў Нямеччыне, без усялякага націску або гвалтаў ці машэнстваў з боку адміністрацыі і паліцыі, але — ў варунках крывавай хатняй вайны, галоўным чынам паміж крайнімі флянгамі партыйна-палітычнай „вясёлкі“ краіны: гітлераўцамі і камуністамі. Трэба сказаць аднак-жа, што гітлераўцы, якія адкрыта нападалі ня толькі на камуністаў, але і на соцыял-дэмакратаў ды буржуазных дэмакратаў, карысталіся яўным падтрыманьнем з боку ўладаў. Усё-ж такі ўведзеная нядаўна „надзвычайнае палажэньне“ ў Бэрліне і ва ўсім Брандэнбургу было за 4 дні перад выбарамі скасавана, як і абяцаў урад.

Вынікі выбараў цікаўны тым, што адбіваюць сучасны палітычны стан Нямеччыны. Вось вынікі гэтыя ў лічбах:

На агульную лічбу 36 міл. 845,279 пададзеных галасоў гітлераўцы здабылі 13 м. 792,779 галасоў (у 1928 г.—809,771, у 1930 г. — 6,401,210).

Соцыял-дэмакраты—7,951,245 (у 1928 г. — 9,151,059, у 1930 г. — 8,572,016).

Камуністы — 5,278,094 гал. (у 1928 г.— 3,263,354, у 1930 г. — 4.587.708).

Цэнтр (партыя Брюнінга) здабыў 4,586,501 гал. (у 1928 г. — 3,711,141, у 1930 годзе — 4,228,929 гал.).

Нямецкія нацыяналісты (партыя Гугенбэрга) — 2.172,941 гал. (у 1928 г.—4,380,029, у 1930 г. — 2,588,493 гал.).

Не даем лічбаў адносна да драбнейшых партыяў.

Новы нямецкі парлямант будзе мець усяго 707 мандатаў (па 1 на кожныя 70.000 выбаршчыкаў).

Паміж канкураваўшымі партыямі мандаты падзеляцца гэтак:

Гітлераўцы будуць мець у новым парляманьце 230 месцаў (у папярэднім мелі 107).

Соцыял-дэмакраты 133 (мелі 143).

Камуністы—89 (мелі 78).

Нацыяналісты, разам з нямецкімі людоўцамі,—45 (як і мелі).

Цэнтр каталіцкі — 76 (мелі 69).

Баварскія людоўцы — 22 (мелі 19).

Рэшту мандатаў маюць дробныя групы і партыі, якія ў парляманьце прыстануць да вышэй названых буйнейшых.

## Які-ж парлямант стварылі выбары?

Першым і найважнейшым вынікам новых выбараў у Нямеччыне ёсьць тое, што гітлераўцы, здабыўшы больш галасоў, чым кожная з іншых партыяў асобна, не здабылі, навет разам з нацыяналістамі і драбнейшымі „хвальваркамі“ правіцы, большасьці ў парляманьце.

З гэтага факту вынікае, што Гітлер ня можа ўжо, як маніўся, непадзельна кіраваць Нямеччынай, але павінен будзе з кімсьці ўладу дзяліць, калі, зразумела, можна лічыць, што парлямант наагул будзе мець рашаючую ролю ў Нямеччыне.

З кім-жа будзе дзяліць? Вось тутака выплывае другі асноўны факт новых выбараў: у новым парляманьце ня толькі няма гатовай, але й наагул ня можа быць створана ніякай большасьці.

Абсалютная большасьць пры 607 паслох — 304 паслы.

Але гітлераўцы разам з нацыяналістамі і з усімі „хвальваркамі“ правіцы ня могуць набраць больш 270—280 паслоў. З другога боку так зван. „ваймарская коаліцыя“. (левацэнтравая,—з соц.-дэмакратаў, цэнтру, людоўцаў і дэмакратаў) не набяре навет і 240-250 паслоў. Такі стан рэчаў вытварыўся пераважна з прычыны камуністаў, якія ўваходзяць вельмі паважнай групай у парлямант (блізу сёмая яго частка), але ідуць у яго, згары адмаўляючыся супрацоўнічаць у ім з якой бы там нібыло фракцыяй,—ці буржуазнай, ці соцыялістычнай. Астаецца яшчэ камбінацыя цэнтра-правая, коаліцыя гітлераўцаў, нацыяналістаў і цэнтру. Але ў магчымасьць супрацоўніцтва Брюнінга з Гітлерам, а навет з Папэнам пакуль-што яшчэ казаць трудна, хаця яна, здаецца, ня выключана цалком. У кожным разе ўрад Папэна робіць ад пачатку ўсялякія „захады“ да цэнтроўцаў. Напрыклад, выкідаючы бязьлітасна ўсіх урадоўцаў соцыял-дэмакратаў, Папэн зусім не чапае ўрадоўцаў-цэнтроўцаў і г. д.

Але такі падзел парляманту на абсалютна варожыя адна да адной паловы фактычна зводзіць яго ролю да нуля, даючы ў рэзультаце блізу поўную і непадзельную ўладу існуючаму ўраду. Таму можна думаць, што ўрад Папэна не аддасьць улады ў рукі новага парляманту, але будзе спрытна выкарыставаць яго бясьсільле, кінуўшы пару няважвых міністэрскіх партфэляў гітлераўцам, нацыяналістам, а мо‘ й цэнтроўцам.

Паўторым яшчэ раз: пры такім палітычным разьбіцьці ў краі ўладу будзе мець тая група, якая мае ў сваіх руках армію і грошы. Урад Папэна, урад аграрных і прамысловых „баронаў“ і генералаў, старое акружэньне імпэратарскага трону даваеннай Нямеччыны, мае ў сваіх руках і грошы, і войска. Разьбіты на варожыя кавалкі парлямант ня вырве ўлады з рук гэтага ўраду. Даволі моцныя, утрымаўшыя свае позыцыі, а лічачы і камуністаў, здабыўшыя бясспрэчную большасьць на выбарах рэспубліканскія партыі краю здолеюць толькі забясьпечыць Нямеччыну, прынамся на бліжэйшы час, ад зваленьня ў ёй рэспублікі і адбудовы манархіі.

## Нямецкі ўрад, гітлераўцы і камуністы.

Зараз-жа пасьля выбараў абедзьве крайнія партыі, здабыўшыя перамогу на выбарах, зьвярнуліся да ўраду з ультыматумам. Гітлераўцы ня трэбуюць адстаўкі ўраду, але трэбуюць, каб урад быў грунтоўна перабудаваны. Гітлер трэбуе для свае партыі ме-

**Ант. Навіна** (А. Луцкевіч).

# Янка Купала, як Прарок Адраджэньня.

У 1930 годзе мы адсьвяткавалі рэдкі ў беларускім жыцьці юбілей: 25-лецьце нясупыннае творчае працы аднаго з карыфэяў беларускае адраджэнскае поэзіі — **Янкі Купалы.**

Чверць веку — гэта даволі часу, каб талент поэты разьвіўся, расцьвіў і паказаў сябе ў-ва ўсей сваей велічы. І перад нашымі вачыма адбыўся гэткі працэс разьвіцьця й расцьвету творчасьці Янкі Купалы. Крок за крокам можам мы яго прасачыць, пераглядаючы творы Купалы, пераходзячы ад „Жалейкі“ да „Гусьляра“, ад „Шляхам жыцьця“ і „Спадчыны“ — да „Безназоўнага“, углыбляючыся ў яго драмы й драматычныя поэмы—„Паўлінку“, „Адвечную песьню“, „Сон на Кургане“, „На папасе“, „Раскіданае гняздо“ і іншыя. І ўгледзім пікаўны абраз. Сялянскі поэта-самародак — от, такі сабе „просты“, „ціхі“, „з вёскі Янка Купала“, як ён сам сябе напачатку называе, — сьпярша мала чым выдзяляецца з сваёй сфэры. І не дарма даў наш поэта першаму томіку сваіх твораў назоў „Жалейка“: назоў гэты — сымболічны. Запраўды, творчасьць Купалы ў першы пэрыад яе напамінае нам ігру на гэтым прымітыўным сялянскім інструмэньце: яна гэтак сама не багата матывамі, як дудкажалейка — тонамі. Але духовае разьвіцьцё Купалы йдзе наперад вельмі шыбкім тэмпам, думка яго паглыбляецца, а поруч з гэтым адбываецца вялікі поступ і ў яго літэратурным разьвіцьці. Ен здабывае літэратурнае ўзгадаваньне: сьпярша на творах польскіх романтыкаў, пасьля — на нязвычайна багатай і рознароднай творчасьці расейскіх і польскіх прадстаўнікоў нэо-романтызму, усьцяж заглядаючы й да скарбніцы заходня-эўрапэйскіх літэратур — ад несьмяротнае шэксьпіраўскае драмы да найнавейшых аўтараў усіх відаў поэзіі. І вось, пашырыўшы свой кругазор, прысвоіўшы сабе найдасканальшыя способы выяўленчае тэхнікі ў слове, Янка Купала — побач з прымітыўнай жалейкай — уводзе ў сваю творчасьць усё новыя й новыя прыёмы, новыя матывы, новыя інструмэнты, і апошнія сугучна грымяць, як магутны оркестр, на ўсенькі наш край, і вырываюцца па-за межы яго, і трывожаць слух суседзяў, якія йшчэ гэтак нядаўна капалі «яміну-магілу» для Беларусі, — і кажуць усяму сьвету, што

„жыў беларус — і будзе жыць!“

Купала творыць цэннасьці агульналюдзкага значэньня. Ен — запраўды вялікі мастак слова; ён ужо дагнаў такіх вялікіх вучыцялёў сваіх, як Адам Міцкевіч, як Пушкін, як Шаўчэнка, з катрымі Купалу раўнавала бесстаронная літэратурная крытыка йшчэ тады, калі ён быў толькі на паўдарозе свайго творчага шляху. Ен—такі-ж сучасны нам, такі-ж „сонечны“, як адзін з найвялікшых расейскіх поэтаў сучаснасьці — Бальмонт. Побач з мастацкасьцяй формы, побач з жывасьцяй і яркасьцяй маляваных Купалай абразоў, побач з нязвычайнай эмоцыянальнасьцяй мовы, творы яго маюць заўсёды й глыбокую думку: яны робяць запраўдныя рэвэляцыі датычна душы народу беларускага, які з векавое няволі вырываецца на вольны сьвет; яны шукаюць адказу й на тыя глыбокія, асноўныя проблемы чалавецтва, над якімі сушылі і сушаць галовы свае мысьліцелі ўсіх часоў і ўсіх народаў.

Запраўды, поэзія Янкі Купалы — гэта праўдзівая музыка, на крыльлі якое й пераліваюцца ў душы людзей пачуцьці і ідэі поэты. Яе рытміка, нязвычайна багатая й рознародная, яе ідэальны падбор сугуччаў то навяваюць сум і жалобу па ўтрачанай колішняй велічы беларускага народу, то хвалююць кроў парываньнем да дзела, да барацьбы, то чаруюць і галубяць сонечнасьцяй і супакоем. Песьня Купалы грыміць, быццам медзь, цьвёрдымі, як-бы каванымі словамі й сугуччамі, калі поэта гаворыць аб змаганьні, аб барацьбе:

Загрымі ты, як звон, і удар, як пярун,
Наша песьня, як воля магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя!...

А зьмяняецца абраз, зьмяняецца настрой,- і новыя гукі знаходзіць Купала для новае песьні. У ведамай імпровізацыі Купалы на тэму

оцы прэм'ера, мін. унутраных і замежных спраў, высоўваючы на становішча канцлера ведамага свайго таварыша Герынга. Сучаснаму прэм'еру Гітлер „дае“ становішча пасла ў Англіі. Гітлер не ўкрывае, што яго ўрад зараз-жа зьліквідуе камуністычную партыю, „разаб'е“ соцыялістычны работніцкі рух у краі, падставу Рэспублікі, і — наладзіць новыя выбары, якія ўжо дадуць поўню ўлады яго партыі. Калі яго трэбаваньні ня будуць споўнены сучасным урадам, тады Гітлер, як выразна кажуць усьцяж на мітынгах яго будучыя міністры, загадае сваей фракцыі „узрываць“ парлямэнт, пераносячы ўсю „палітычную акцыю“ на вуліцу, каротка кажучы — захапіць уладу гвалтам.

З свайго боку, пасды-камуністы ўжо падалі ў новы Райхстаг цэлы рад прапазыцыяў і законапраектаў, трэбуючых першым чынам адстаўкі ўраду Папэна; далей камуністы трэбуюць скасаваньня ўсіх апошніх загадаў ураду Папэна, скінуўшага левы ўрад у Прусіі і т. д. Цікаўна, што як камуністы, таксама і гітлераўцы, аднагалосна трэбуюць сарваньня ўмовы, падпісанай Нямеччынай на апошняй канфэрэнцыі ў Лёзаньне, і бязумоўнага скасаваньня адшкадаваньняў.

Ясна ўжо, што ўраду Папэна прыходзіцца бараніцца на абодва фляңгі, навет — ад сваіх „прыяцеляў справа“, дык ён, скарыстаўшы з таго, што крывавыя бaі між гэтымі флянгамі ня спыніліся й пасьля выбараў, а навет яшчэ завастрыліся, дый апіраючыся яшчэ й на супольнае дамаганьне ўсіх дэмакратычных партыяў, пастанавіў рашуча прыцісңуць і камуністаў, і гітлераўцаў. Ужо падрыхтованы дэкрэт прэзыдэнта Рэспублікі аб спыненьні паліт. тэрору, які прадбачыць вельмі жорсткія кары за ўсялякія аружныя выступленьні — аж да кары сьмерці. Зразумела-ж, што дэкрэт будзе тасавацца з такім рахункам, каб на адну галаву гітлераўца прышлося ня менш дзесятку камуністычных, але пападзе нешта-ж і гітлераўцам. Такім чынам урад „баронаў“ і генералаў ужо пачаў вызваляць сабе рукі ад Гітлера, якім, зразумела-ж, будзе ўсьцяж карыстацца й надалей, як сваёй прыладай.

# Жыцьцё Польшчы.

## Новы канфлікт паміж Польшчай і Нямеччынай.

У часе ўрачыстасьцяў „сьвята мора“, якое польскае грамадзянства наладзіла якраз у дзень нямецкіх выбараў, каб заманіфэставаць усенародную волю бараніць польскае мора ад захватніцкіх імкненьняў Нямеччыны, раднік нямецкага пасольства барон фон Рынтэлен загадаў зьняць з дому, у якім ён жыве, польскі дзяржаўны сьцяг, вывешаны на доме ў знак урачыстага дня. Справа, зразумела-ж, ня скончылася на паліцэйскім пратаколе, але перайшла да найвышэйшай дыплёматыі.

Пад націскам усяго польскага грамадзянства, узбуранага гэтай зьнявагай дзяржаўнага сьцягу Польскай Рэспублікі з боку нямецкага дыплёмата ў Польшчы, — польскі ўрад загадаў свайму паслу ў Бэрліне выразіць нямецкаму ўраду рэзкі пратэст проці гэткага паступку яго дыплёматычнага ўрадоўца. Але міністар замежн. спраў Нямеччыны вельмі жорстка прыняў гэты пратэст, заявіў, што — нямецкі ўрад ня бачыць у паступку радцы Рынтэлена нічога такога, што-б пярэчыла правом і звычаям, агульна прынятым у дыплёматычных стасунках. Наадварот, польская паліцыя зрабіла крымінал, пагвалціўшы нятыкальную кватэру нямецкага дыплёмата. Польскі ўрад, здаецца, выслаў яшчэ паўторную ноту, дамагаючыся адкліканьня з Варшавы барона фон-Рынтэлена. Але нямецкі ўрад заявіў, што ўвесь выпадак адбыўся ў часе, калі раднік Рынтэлен ужо... пакаваў чамаданы, бо прыказ аб яго пераводзе на другую пляцоўку ўжо быў ім атрыманы. Такім чынам, канфлікт нібы ўжо зьліквідаваны.

Ня спыняючыяся польска-нямецкія канфлікты сьведчаць аднак-жа аб сталым горшаньні адносінаў між Польшчай і Нямеччынай, якія няўхільна павінны будуць давесьці да вялікшага выбуху, калі ня будуць прыняты нейкія грунтоўныя меры дзеля паправы адносінаў.

### Распараджэньні аб спагоне падаткаў.

У „Дзеньніку Устав“ ад 22 ліпня абвешчаны новыя распараджэньні рады міністраў аб прымусовым спагоне залеглых падаткаў. §§ 18, 29 і 38 прадбачаць права скарбовых уладаў спаганяць прымусам падаткі навет ў дні сьвяточныя дый уначы, а таксама рабіць вобыскі ў-ва ўсіх памешканьнях публічных і прыватных, шукаючы грошы.

Польская опозыцыйная прэса падчырківае, што гэтыя тры параграфы яўна пярэчаць Канстытуцыі, а таму павінны быць скасаваны. Канстытуцыя не дазваляе рабіць асабістага вобыску і ў кватэры без загаду судовай улады, дык вобыскі скарбовых уладаў будуць рабіцца з нарушэньнем Канстытуцыі. Таму трэба спадзявацца, што тасаваньне новых распараджэньняў выкліча судовыя скаргі, якія могуць прывесьці да скасаваньня гэтых параграфаў. І суд павінен будзе здаволіваць слушна абаснаваныя скаргі.

Ад сябе дадамо толькі, што ні ў якім выпадку ня трэба ставіць фізычнага апору скарбовым уладам або ўжываць якога гвалту. Насамперш таму, што за адмову выясьненьняў пагражае кара да 500 зл. штрафу, а за гвалт можна папсаваць сабе жыцьцё дарэшты. На дазнаныя крыўды трэба зьвяртацца з скаргамі да вышэйшых інстанцыяў або ў суд.

Пачынаючы ад 1 жніўня спагон падаткаў пераходзіць цалком да скарбовых уладаў.

### Абшарнікі пастанавілі не плаціць даўгоў.

У часе завастрэньня спагону падаткаў, абшарнікі змаўляюцца **ня сплачываць ніякіх даўгоў—ані банковых, ані прыватных.**

Газэты толькі што падалі вестку абтым, што „Зьвёнзэк Земян“ Плонскага павету пастанавіў — „з увагі на катастрофічнае палажэньне ральніцтва“ — абязаць усіх сваіх сяброў катэгорычна адмовіцца плаціць процэнты і раты за даўгі прыватныя і банковыя, пакуль ня будзе адбудавана раўнавага між цэнамі збожа і коштамі яго прадукцыі. Першым бо абавязкам сельскага гаспадара ёсьць недапусьціць за ўсялякую цану да канчальнага заняпаду яго варштату працы. Другім абавязкам яго ёсьць аплата рабочых, а трэйці — ўжо аплата падаткаў.

Пастанова наагул гаспадарча слушная і бяспрэчная. Толькі трэба яе расьцягнуць на ўсіх гаспадароў, а не на адных толькі бяздонна прагавітых абшарнікаў, бяспрэчна шкодных для ўсей дзяржавы наагул.

### Правал „процівaеннага дня“ 1 жніўня.

З усіх мясцовасьцяў Польшчы і заграніцы ідуць весткі аб чарговым правале ўстаноўленага Комінтэрнам новага „работніцкага сьвята“ 1 жніўня — „дня пратэсту проці вайны“. Дзіўныя рукі ў камуністаў: да чаго толькі не дакрануцца, усё кампрамітуецца, траціць жыцьцё і гіне — навет такі, здавалася-б, сьвяты для ўсіх народаў лёзунг, як пратэст проці ўсялякай вайны...

У Вільні некалькі камсамольцаў раскінулі некалькі пачак лятучак і вывесілі пару чырвоных сьцягаў на тэлеграфных дротах. Работнікі, ня гледзячы на агітацыю, на вуліцу ня вышлі.

### Забойца мітр. Юрыя выходзіць з вастрогу.

Вядомы правасл. архім. Смарагд, засуджаны на 10 гадоў вастрогу за забойства мітрап. Юрыя, мае быць выпушчаны на волю, як адбыўшы сваю кару. Як ведама, паводле апошняй амністыі тэрмін кары быў засуджанаму зьменшаны на пару гадоў.

---

драмы Пшыбышэвскага «Сьнег» бачым адну з такіх песьняў; яна пачынаецца поўным глыбокага настрою абразом:

Залягла, як пасьцель,  
Лебядзіная бель...

тая бель сьнегавая, што ў путы сьмяротныя закавала ўсю прыроду зімою. І тут ізноў сугуччы знаменіта падгатаўляюць нас да прыняцьця маляванага Купалай абраза — абраза мёртвае цішы, парушанае толькі лёгкім шуршаньнем зыбанага ветрам сухога сьнегу. А колькі музыкальнага пачуцьця выяўляе Купала, калі дае нам абраз восені з яе характэрнымі гукамі-шумамі:

Не шасьцяць каласы,  
Звон ня валіцца з касы,  
Не кладуцца ў стог пласты,  
Толькі сыплюцца лісты.  
На яловыя кусты,  
На сухія верасы...

Побач з багацьцем рытмікі, побач з гукавымі эфэктамі, побач з тварэньнем новых слоў для выражэньня найтанчэйшых пачуцьцяў і адценкаў мысьлі — Купала мае многа іншых спосабаў, каб прымусіць нас бачыць у-ва ўсей паўнаце твораныя ім абразы. Ягоныя абразы адзначаюцца асаблівай плястычнасьцяй, выпукласьцяй, яркасьцяй. Яны стаяць у нас уваччу навет і тады, калі Купала ўводзіць элемэнт сымболічны, у істоце сваей нерэальны, туманны, плыўкі. І заўсёды ёсьць у іх запраўднае жыцьцё, ёсьць рух, ёсьць дынамізм. Бо Купала, як і сьлед запраўднаму мастаку, думае абразамі, бо ў абразы пералівае свае пачучьці і настроі. А гэныя пачуцьці й настроі — заўсёды глыбокія, заўсёды шчырыя й непадробленыя, заўсёды выклiканы глыбокім узварушэньнем пясьняровае душы.

Што-ж узварушае Купалу, што пабуджае яго творчыя сілы да дзеяньня, да тварэньня мастацкіх цэннасьцяў? І што нясе ён нашаму народу, якія думкі-ідэі прышчапляе яму, карыстаючыся магутнымі чарамі свайго поэтыцкага таленту?

Усе віды поэзіі Купалы: і лірыка яго, і эпос, і драма — выяўляюць вялізарнае багацьце матываў. У першы пэрыяд творчасьці сваёй Купала апявае пераважна ўласнае гаротнае жыцьцё і жыцьцё такіх-жа гарапашнікаў, як сам. Тут адбіваюцца ўсе злыбяды селяніна-беззямельніка, яго быт, яго цяжкая праца. Але ў далейшым Купала ўзвышаецца па-над паасобнымі фактамі й праявамі соцыяльнае несправядлівасьці і дае сынтэз соцыяльных адносінаў, пераходзе да шырокіх соцыяльных проблемаў. Тое-ж і з нацыянальным пытаньнем: пашыраючы «маніфэст» Мацея Бурачка аб патрэбе адраджэньня роднае мовы, Купала захапляецца ідэяй усебаковага адраджэньня народу беларускага, ідэяй адбудаваньня паняволенае бацькаўшчыны. А ўсё гэта грунтуецца на вялікіх агульналюдзкіх ідэалах, абвешчаных яшчэ Вялікай Францускай Рэвалюцыяй, — ідэалах Волі, Роўнасьці, Брацтва ўсіх людзей; над усім лунае магутны й непакорны дух вольнага ў сваёй сьвядомасьці чалавека. Урэшце, побач з шырокімі грамадзкімі ідэямі, побач з проблемамі агульналюдзкімі, бачым у Купалы й багатыя матывы індывідуальных перажываньняў поэты, перад усім — матывы каханьня. А ўсё разьвіваецца на фоне абразоў роднае прыроды, якую так добра адчувае й разумее наш пясьняр, ды якая дае яму магутныя пабуджэньні да тварэньня.

Трэба ўсё-ж такі адзначыць, што матывы нацыянальнае і соцыяльнае барацьбы знаходзяць у Купалы найбольш яркае выяўленьне. Ён увесь аддаецца *ідэі ўсебаковага адраджэньня й вызваленьня беларускага працоўнага народу* і дае *сынтэз змаганьня нацыянальнага і соцыяльнага,* — сынтэз, які характэрызуе творчасьць Купалы ад пачатку да канца. І я затрымаюся шырэй іменна на гэтай рысе творчасьці Купалы, каторага з поўным правам можам назваць *Прaракам Нацыянальнага Адраджэньня, Прарокам Перамогі Працоўных.*

(Працяг будзе).

# Б. С. С. Р.

### З багатае Украіны уцякаюць на Беларусь.

Як інфармуе Украінскае Прэс-бюро ў Парыжу, у БССР наглядаецца цікаўнае зьявішча. Як ведама, некалі з беднае Беларусі цягнулася многа народу на багатую Украіну за хлебам. Цяпер палажэньне зьмянілася. На Украіне, у выніку палітыкі Масквы, пануе голад, і вось украінскія сяляне, ня маючы чаго есьці дома, цэлымі грамадамі цягнуцца на Беларусь, спадзяючыся дастаць там хлеб для сябе.

# С. С. С. Р.

### Развал хлебнай кампаніі ў СССР.

У Сталінградзе адчынілася абласная нарада старшыняў і сэкрэтароў раёнmen камітэтаў, якая мае наладзідь „рацыянальнае правядзеньне збору збожа і рэалізацыі ўраджаю", выкарыстаўшы, як „лекцыю", усе памылкі ды промахі мінулага году. Але выступаўшыя адзін за адным аратары нарысавалі такі жудасны абраз справы збору ўраджаю ў гэтай вялізарнай сельска-гаспадарчай краіне, што трудна верыць, каб штосьці запраўды „рацыянальнага" маглі зрабіць у гэтым дзеле тыя самыя, што выклікаў агульны развал...

Абласная нарада датычыла толькі паўночна-заходняй абласьці, але пэўне ж ня лепшыя парадкі пануюць і ў іншых „абластях" і раёнах. Адзін з дзеячоў вясковай коопэрацыі казаў, напрыклад, што з пасланага транспорту тавараў на 15 мільёнаў руб. да вёскі дайшло тавару толькі на 3 мільёны. Добрая „коопэрацыя"!

Характэрна для поўнага бяссільля тых, хто кіруе гэтай справай, і тое, што гэты „Областной Исполком", замест таго, каб папрацаваць самому над „рацыянальнай" арганізацыяй кампаніі, абвясьціў... конкурс у газэтах — на „найлепшае правядзеньне збору ўраджаю і хлебазагатоўкі". На фонд для прэміяў асыгнавана 100.000 рублёў.

# З украінскага жыцьця.

У Бэрліне, як і ў Лёндане, існуе экспозытура украінскіх незалежнікаў, якая ўсьцяж займаецца пропагандай, асабліва — асьвятленьнем з украінскага пункту гледжаньня палажэньня украінскай справы ў Польшчы.

На чале гэтага „украінскага Бюро" ў Бэрліне стаіць Мікалай Яры, які нядаўна прачытаў рад дакладаў аб польскай палітыцы адносна да украінцаў і іншых меншасьцяў. На даклады яго зьбіралася шмат прадстаўнікоў вышэйшай нямецкай інтэлігенцыі, якая вельмі цікавіцца украінскай справай наагул, а меншасьцёвай палітыкай Польшчы ў частцы.

Другі украінскі дзеяч у Бэрліне журналіст Чучмай (былы пасол польскага Сойму?) спэцыяльна займаецца украінскай справай у Усходняй Галіччыне.

# З усяго сьвету.

### Узнаўленьне вайны ў Манчжурыі.

Манчжурыю, як ведама, ужо блізу цалком былі апанавалі японцы. Яны стварылі ў гэтай „незалежнай дзяржаве" пакорны сабе ўрад, разьбілі галоўныя сілы былага ўраду, які далучыў Манчжурыю да рэшты Кітаю, а таксама і ведамага ген. Маа, дый пачалі весьці пляновую акцыю „ачышчаньня краю ад бандытаў", называючы так найлепшых грамадзян яго, арганізаваўшыхся ў паўстанчыя атрады дзеля саматужнай абароны бацькаўшчыны ад захватчыкаў — чужынцаў. Урэшце, японцы блізу цалком выкінулі з Манчжурыі — праз свой урад „незалежнай Манчжурыі" — усіх савецкіх урадоўцаў з усходня-Кітайскай чыгункі, якая зьяўляецца ўсё-ж праўнай уласьнасьцю ў значнай частцы СССР. Але японцы, ня гледзячы на ўсе свае пасьпехі, ня маюць нейк спакою ў Манчжурыі. А ў апошні час барацьба паўстанцаў страшэнна завастрылася, робячы японцам масу крывавых клопатаў. У дадатку сам былы валадар Манжчурыі Чанг-Сю-Ліанг (сын ведамага японскага наймітa Чанг-Тсо-Ліна), сабраўшы значнае войска, пайшоў ізноў біць японцаў. А тут яшчэ аказалася, што і ген. Маа, якога абвясьцілі ўжо забітым, ня толькі жыве, але і мае значнае войска. А найгорш для японцаў, што абодвум манчжурскім правадыром адкрыта пайшоў на помач нанкінскі ўрад, выслаўшы армію з слаўным гэроем Шанхайскай экспэдыцыі 1927 г., былым дыктатарам усяго Кітаю, марш. Чанг-Кай-Шэкам. Чанг-Сю-Ліангу высланы з Нанкіну абозы з аружжам, амуніцыяй, прадуктамі і т. д.

Але галоўным „пасьпехам" Японіі ў Кітаі трэба лічыць заняпад умеранага нацыянальна-адраджэнскага руху ў Кітаі і ўзмацненьне зноў крайняга рэволюцыйна-сацыяльнага яго кірунку — на чале з „Чырвоным Кантонам". Японія дабілася сваімі захватамі новай перавагі камуністычна-вызваленчага руху ў Кітаі. На чале новай хвалі вызваленчай барацьбы ў Кітаі становіцца ізноў кантонская армія з сваімі правадырамі, паказаўшая найбольш адвагі і сілы ў барацьбе з японцамі пад Шанхаем.

Дзеля таго трэба спадзявацца новага ўздыму ваенна-рэвалюцыйнай акцыі ў Кітаі, скіраванай насамперш проці Японіі. Што ўва ўсім гэтым шырокім разьліве крыві, выкліканым Японіяй, „мачаюць пальцы" і маскоўскія бальшавікі, у гэтым зразумела-ж ня можа быць ніякага сумліву. Поўная гарантыя спакою на заходняй граніцы СССР, здабытая імі ў выніку эўрапэйскіх трактатаў, дае ім шмат вальнейшыя рукі на Далёкім Усходзе.

### Вайна Болівіі з Перагваем.

Вайна Болівіі з Парагваем ужо пачалася, ня гледзячы на прапазыцыю з боку Парагваю—аддаць спор між імі ў суд. Болівія адказала адмовай, і кроў пачала ліцца. У мінулую вайну паміж гэтымі дзяржавамі зачэпную ролю ўзяў на сябе Парагвай, маючы лепшую армію. Цяпер, праз пару год, шмат большая і багацейшая Болівія, відаць, ацаніла вагу добрай арміі, дый цяпер зачэпнікам выступае ўжо сама. Найвялікшыя дзяржавы паўдзённай Амэрыкі выступілі ўжо з моцным заклікам да абедзьвюх пабіўшыхся дзяржаваў — спыніць вайну. Але Болівія, маючы цяпер вялікую перавагу над Парагваем, хоча чым хутчэй і балей выкарыстаць яе, пакуль будзе змушана паднацца націску дзяржаў.

Болівія — рэспубліка з тэрыторыяй у чатыры разы большай, чым Польшча (1.332 тысяч квадр. кілём.), але з насяленьнем больш, як у 10 разоў меншым, чым Польшча (3 мільёны). Перагвай таксама рэспубліка. тэрыторыя яго лічыць 443 тыс. квадр. кіл (Польшча мае 386.273), а жыхароў — толькі 830.000. Спор ідзе, як мы ўжо пісалі, аб канчальным урэгуляваньні граніцаў. Маючы „гушчыні насяленьня" штосьці па 2 жыхара на 1 кв: кілёмэтр, можна было-б, здаецца, не клапаціцца аб граніцах. Так даўней і было. Але, як мы пісалі ўжо, справа высунулася на чаргу дня дзеля таго, што якраз на пагранічча знойдзены нафтаносныя абшары. За нафту і палілася ізноў кроў.

# ХРОНІКА.

— **Да лёсу Ф. Аляхновіча.** У свой часе мы падалі вестку аб тым, што ведамы беларускі драматург і артыст Ф. Аляхновіч, які выехаў у Савецкую Беларусь і быў стуль сасланы на Салоўкі, відаць, ужо на волі, бо імя яго было ўспомнена ў савецкай газэце „Зьвязда" пры пералічэньні ўчасьнікаў нейкае тэатральнае нарады ў Менску. — Аднак, ад асобы, якая нядаўна прыехала з Менску, мы даведаліся, што ў нарадзе прымаўчасьце нейкі іншы Аляхновіч, а наш пісьменьнік і дагэтуль сядзіць на Салоўках. Стан ягонага здароўя вельмі благі: ён хварэе ўсьцяж на сэрца, — але, ня гледзячы на гэта, савецкая ўлада не згаджаецца зволыніць яго.

— **З дзейнасьці КПЗБ.** Абшарніцкае „Слово", ясна, блізкае да дэфэнзыўных сфэр, дае цікаўныя інфармацыі аб дзейнасьці камуністычных аргазацыяў — КПЗБ і МОПР на беларускіх землях. Вельмі характэрны факт надрукаваньня у „Слове" фатаграфіі — быццам запіскі сэкрэтаркі Ц.К. Мопру, А. Ф. Оксэнбэрг, узятае хіба-ж беспасрэдна з сьледчых матэрыялаў (— вось куды маюць адкрыты доступ паны абшарнікі і іхнія рэдактары!). **У сказанай запісцы гаворыцца аб растратах сябрамі кіраўнічых органаў компартыі — значных сум грошы, празначаных на дапамогу палітычных вязьням (МОПР).**

Тая-ж газэта падае вестку аб арышце некалькіх асоб, западозраных уладамі ў прыналежнасьці да КПЗБ, у тым ліку: беларуса студэнта Яна Касяка, двух жыдоўскіх дзеячоў — адвакацкага апліканта Абрама Гордона, сына рэдактара жыдоўскае дэмакратычнае газэты „Вільнэр Тог", Сауля Рэйзіна, і інш. Арышты зроблены быццам у сувязі з падрыхтоўкай камуністычных выступленьняў на дзень 1 жніўня, як дзень процівaенны.

У выніку крокаў адміністрацыі, паводле тэй-жа газэты, дзень 1 жніўня прайшоў у Вільні зусім спакойна.

— **Дзявочы інтэрнат.** Даведываемся, што Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын імя Цёткі пастанавіла адчыніць з пачаткам наступаючага школьнага году дзявочы інтэрнат. Вітаем гэтую пастанову нашых жанчын, якія, верым, паставяць гэтую справу на належную вышыню і гэтым атуляць так патрэбнай апекай маладых дзяўчат.

Варта было-б і Беларускаму Дабрадзейнаму Т-ву рэарганізаваць крыху існуючы інтэрнат для хлапцоў, зьвярнуўшы большую ўвагу на ўзгадаваўчы бок

— **Чацьверты месяц бяз грошай.** Вучыцелі Віленскай Беларускай Гімназіі ад мая не атрымоўваюць пэнсіі. Варта было-б Бацькоўскаму К-ту паруліцца крыху болей аб гэтай справе.

— **Прадоўжаньне ліквідацыі Дзяржаўнай Вуч. Сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча.** Прымаючы пад увагу, што Інтэрнат Дзярж. вуч. сэмінарыі да ліпня не атрымаў належных ад дзяцей грошай за ўтрыманьне ў інтэрнаце і такім чынам кіраўніцтва інтэрнатам не магло да гэтага часу разьлічыцца з даўгамі, п. Куратар Віл. Шк. Вокругу прадоўжыў тэрмін ліквідацыі сэмінарыі да 31 жніўня г. г.

— **Страшны ўраган над Бярэсьцем.** Над Бярэсьцем праляцеў нячуванай сілы ўраган, які нарабіў вялізарных шкодаў і стратаў у месьце дый наагул ува ўсей ваколіцы. Вецер сарваў шмат дахаў, павырываў з карэньнямі блізу ўсе дрэвы, разбурыў шмат ня толькі драўляных, але і пару каменных дамоў. Забіты пры гэтым 2 асобы, ранены 20.

— **Кара сьмерці — за забойства паліцыянта.** У Глыбокім адбыўся даразны суд пад Канстанцінам Квецінскім, які — супольне з сваім братам Станіславам — забіў хацеўшага затрымаць іх паліцыянта з Пархвенава Вільгэльма Анджэвскага. У час пагоні за забойцамі Станіслаў Квецінскі быў застрэлены паліцыяй, а Канстанцін — ранены і заарыштаваны. Даразны суд засудзіў Канстанціна Квецінскага на кару сьмерці праз павешаньне. Квецінскі адмовіўся прыняць ксяндза і выспавядацца перад сьмерцяй.

## Паштовая скрынка.

**М. Верашчака.** Газэту высылаем.

**Я. Лаўрыновіч.** Газэту высылаем. Кніжкі ў бібліятэку вышлем па атрыманьні ад Вас дэклярацыі, якую перашлём старасьце. Пасьведчаньне Вам вышлем.

**М. Маталёнак.** Газэту высылаем.

**Н. Н.** Атрымалі — дзякуем. Бібліятэку вышлем. Блянкі дэклярацыяў на імя школьнага інспэктара вышлем па стараму адрасу. Трэба, каб адначасна бацькі прыслалі праз рэдакцыю паданьне на імя п. Куратара аб жаданьні беларускай школы. На паданьні трэба падпісацца усім бацьком з паданьнем колькасьці дзяцей і іх веку. Калі адміністрацыя ці паліцыя будзе ставіць нейкія перашкоды, пішэце нам з паданьнем прозьвішчаў гэтых асобаў.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22